

**НА ДЗІЦЯЧАЙ ПЛЯЦОЎЦЫ ЎЛЕТКУ**

*На здымках: зьверху—дзеці паліваюць кветкі; унізе—дзеці працуюць у майстэрні*





Друкарня імя Сталіна. Заказ №

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год. | 1 р. 80 к. |

№ 8 жнівень 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

*Вершы дзяткораў*

## ЗА ЎБОРКУ БАЛЬШАВІЦКУЮ

*Верш дзяткора В. БУРНОСАВА*

Другую бальшавіцкую
Ударна правялі
І поўнасьцю засеялі
Колгасныя палі.

Спаборніцтвам, ударніцтвам
Уборку сустракай,
На зьдзельшчыну пярэйдзем,
Зьбярэм ўвесь ураджай!

Задача піонэраў—
Старэйшым памагаць,
Да ўборачнай кампаніі
Газэту выпускаць.

За зьдзельшчыну змагацца
Няспынна увесь час,
К нам будуць уліваціца
Працоўныя ў колгас.

## КРАСУЙ САВЕЦКАЯ КРАІНА!

*Верш дзяткора Б. КЕДАЛАВА*

Эх, краіна мая дарагая,
Гут, заводаў і фабрык буйных,
Ты расьцеш шпарка кветкаю мая,
На вачох расьцьвітаеш маіх.
Твае песьні разносяцца звонка
Па ўсім сьвеце магутнай ракой,
Заклікаеш ты ўсіх да змаганьня,
Усе працоўныя йдуць за табой.
Гмахі буйных заводаў і фабрык
З кожным часам растуць угару,
І фундамэнтам моцным, каменным
Засьцілаюць зямную кару.








*Апавяданьне Р. ШАТЭРНІКА*

*Малюнкі ТЫЧЫНЫ І ПАШКЕВІЧА*

На зборы групы акцябрат радасны гоман, шум. Гаварылі пра новы навучальны год.

— Піонэрскі атрад пачаў ужо рыхтавацца. Нам трэба ім дапамагчы. Я прапаную падзяліцца на брыгады. Заўтра-ж наладзім суботнік. Пойдзем па ўсіх дамох Жакту і зьбярэм папяровы хлам,— казаў піонэр Сёмка, кіраўнік групы акцябрат.

— Папяровы хлам? Навошта ён?—зьдзівіліся акцябраты.

— Як гэта? А ці вы ня ведаеце, што з папяровага хламу на фабрыцы зробяць чыстую паперу. А з паперы—сшыткі, кніжкі. У гэтым годзе трэба куды больш кніжак і сшыткаў, чым летась. Сёлета ўсе дзеці будуць хадзіць у школу,—тлумачыў Сёмка.

— У мяне ёсьць сьпісаныя сшыткі. Іх можна прынесьці?—запытала Акцябрынка, самая малая ва ўсёй групе.

— Вядома, можна. Усякую старую паперу трэба прынесьці.

— А я прынясу два старыя карандашы.

— А я кніжку і дзьве ручкі.

— Добра, добра! Усё спатрэбіцца.

* *
*

Ніколі яшчэ ня было так весела, як сёньня. Усе акцябраты сабраліся на суботнік. Хто мяшок узяў з сабою, хто карзіну. Падзяліліся на тры брыгады.

Адной брыгадзе даручылі абыйсьці ўсе дамы Жакту і запісаць усіх дзяцей, якім трэба хадзіць у школу. Дзьве астатнія брыгады ўзяліся сабраць у дамох Жакту ўсю старую непатрэбную паперу.

— Я прапаную абвясьціць спаборніцтва—хто лепш правядзе гэтую работу,—прапанаваў малы Ігнаська.

Усе загаварылі. Кожны даваў прапанову.

— Наша брыгада бярэцца сабраць сто кілёграм старой паперы, 50 карандашоў і 50 ручак. Выклікаем другую брыгаду на спаборніцтва,—адказаў кіраўнік брыгады Лявонка.

— Мы ваш выклік прымаем. Бярэмся сабраць 120 кілёграм паперы і гэтулькі-ж ручак і карандашоў, колькі і вы,—адказала другая брыгада.



* *
*

Брыгады вышлі ў паход. Ніводнага дому ня мінулі. Абыходзілі ўсе куткі, лазілі на вышкі. Ня мінаў рук брыгадзіраў ніводзін кавалачак старой паперы.

— Паглядзеце, паглядзеце, што я знайшла! Нейкая кніжка старая. Аб боскіх цудах у ёй тут пішацца. Напісана на вокладцы „Закон божы“,— крычала Акцябрынка.

— Кладзі яе ў мяшок. Спатрэбіцца. Усе гэтыя „боскія цуды“ папяровая фабрыка пераробіць на сшыткі для навічкоў. Досыць ім валяцца,—адказаў Алеська.

Праз гадзіны тры мяшкі і карзіны былі поўныя. Хоць змарыліся акцябраты, але вясёлыя несьлі на плячох мяшкі і карзіны. Маленькая Лёля несла траха не ўдвая большы за сябе мех з папераю.

— Вось дык акцябраты,—дзівіліся старэйшыя.

* *
*

Назаўтра ў групе зноў збор. Падлічвалі вынікі работы.

— Першая брыгада сабрала 115 кілёграм паперы, 70 карандашоў, 80 ручак. Другая брыгада сабрала 125 кілёграм паперы, 80 карандашоў і 90 ручак. Трэцяя брыгада перапісала ўсіх дзяцей, якім патрэбна хадзіць у школу,—моцна на ўвесь пакой гаварыў Сёмка.

А назаўтра ў насьценнай газэце школы было напісана:

Бярэце прыклад.

Група акцябрат пры школе добра працуе па падрыхтоўцы да новага навучальнага году

Група паставіла сабе задачу—ахапіць школаю ўсіх дзяцей, што жывуць у нашым Жакце. Для навічкоў сабраны карандашы і ручкі. Сабрана 240 кілёграм старой паперы. Паперу аддалі на фабрыку і з яе зробяць сшыткі і кніжкі. Акрамя гэтага, група ўзяла на сябе абавязак навучыць грамаце сваіх бацькоў. Выклікаем усіх вучняў школы ўзяць прыклад з акцябрат.




*Назаўтра ў групе зноў збор. Падлічвалі вынікі работы.*

# СЭРЦА ГОРАДУ

*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

*Верш А. ЯКІМОВІЧА*



I

І ноч, і дзень
Электрастанцыя гудзе.
Магутныя турбіны
Працуюць бязупынна
І гоняць, гоняць скора
Электра-ток у горад.

II

Усё пакрыта дротам,
Нібы павуцінай:
Фабрыкі, заводы,
Вуліцы, вітрыны.

III

Гудзе электрастанцыя,
Імчыцца ток па дроту.
Заняты людзі працаю—
Усюды йдзе работа.





IV

Вясною бурлівай
Запенілі хвалі.
Ракой гутарлівай
Пакрыліся далі.
Імчыцца навалай
Шумліва і скора
З палёў і балотаў
Паводка на горад.
Квартал за кварталам
Вада затапляла.

V

Ад самага ранку
Закіпела праца:
Ўхапіліся людзі
З паводкай змагацца.
Чырвоная армія,
Міліцыя,
Пажарныя
Паселі на лодкі,
Ратуюць дабро
І людзей ад паводкі.

VI

Рака-ж, нібы навала,
Упарта наступала.
Вось-вось электрастанцыі
Паводка пагражала...
І раптам захліпнуліся
Магутныя турбіны...
Ня гоняць больш на вуліцу
Току бязупынна.

VII

Ішоў трамвай
З гары крутой.





— Гэй, уцякай,
Дарогу дай!
Званіў трамвай.
І, раптам—
Стой!..
Спыніўся ток
На правадох...
Кандуктар зьдзівіўся:
— Чаму трамвай спыніўся?!

VIII

За ударам удар
Стукацяць малаткі.
На заводзе „Камунар“



Ня гуляюць варштакі.
Людзі працуюць,
Жалеза гартуюць,
Каб зрабіць з яго
Многа плугоў,
Барон, малатарняў,
Жнаярак, сячкарняў.
Раптам машыны
Спынілі ход...
І за хвіліну
Стаў завод.



— Што такое,—
Крычыць народ:—
Чаго спыніўся
Наш завод?

IX

Хлопчык Ян
Захацеў піць,
Пабег пад кран
Вады наліць.
Пакруціў раз-другі—
Вады няма,
Кран сухі...




— Сапсаваўся кран!—
Заплакаў Ян.
Цешачы сына,
Маці сказала:
— Стала машына,
Станцыя стала...

X

Піонэрка Мая
Зранку газэтак чакае.
— Нешта няма паштальёну,—
Дзе-ж ён забавіўся сёньня?
— Току няма...—
Адказалі Маі:—
Друкарня стаіць,
Не працуе...

XI

Уклеены афішамі
Тэатр на сквэры,
Сумуе сьцішаным,
Зачынены дзьверы.
Дамы, вітрыны, шыльды—
Ўсё цемрай апавіта.

XII

А паводка бушавала,
Цэлы тыдзень не спадала.
Мокне станцыя ў вадзе,
На‘т гудок не загудзе.
Гарадзкое сэрца
Болей ня б‘ецца...

XIII

Паводка прашумела,
Яе перамаглі.
Закрасавалі краскі
На вымытай зямлі.
І сэрца гарадзкое
Няспынна ноч і дзень
Магутнымі турбінамі
Зноў, як раней, гудзе.
Ды гоніць, гоніць скора
Электраток у горад.
Працуюць зноў маторы
На фабрыках, заводах.
Па рэйках мчацца скора
Трамваі поўным ходам.



## XIV

Заварушылася гораду сэрца—
Усё ажыло,
Усюды сьвятло
Электрычнасьці льлецца.
Ўвечары зноў
Засьвяцілі ліхтарні
Каля тэатру,
Кіно
І кнігарні.
Зноў горад рухавы,
Вясёлы і жвавы.
Слава электрыцы,
Слава!



# Вялікія і малыя

С. АУСЛЕНДЭР

— Малыя, не перашкаджайце!

— Малыя, ня дурэйце!

— Малыя, не чапайце кніжак!

— Малыя, — зноў сьмецьця нарабілі!

Цэлы дзень толькі і чуваць: малыя ды малыя. Усе крыўдзяць малых. Малых у дзіцячым доме ўсяго толькі чацьвёра: Таць-цянка, Марыська, Ганулька і Алеська. А большых дзяцей цэлы гурт, душ 20,—вось яны і камандуюць малымі. Бо, часамі, і праўду кажуць большыя: дзеці, хоць і маленькія, з-за стала ня відаць, але шустрыя. Хвілінкі спакойна не пасядзяць, а на розныя штукі—яны першыя.

І як толькі розуму хапала прыдумліваць?

У акварыуме кран адкруцяць і выпусьцяць усю ваду, дастануць карандашы і размалююць усю печ, залезуць у ванну і там нашкодзяць, трусікаў з клетак павыпускаюць—ды ці мала могуць нарабіць шкоды малыя! Пасьля кожнага такога здарэньня з малымі дзеці склікалі сходы і абмяркоўвалі, што рабіць з малымі? Малыя, як звычайна,—у плач, а потым зноў за сваё бяруцца. Чым толькі іх дзеці не палохалі, нічога не баяцца.

А калі прышла вясна, дык з малымі яшчэ больш клопату: то ногі прамочаць, то казу з хлява выпусьцяць, то шыбы разаб'юць... Проста сілы не хапае іх дагледзець. А тут самы гарачы час у дзіцячым доме: трэба гарод капаць, вясновыя нагляданьні запісваць і многа чаго цікавага рабіць. Склікалі дзеці



сход, абмеркавалі ўсю сваю работу, а, нарэшце, дайшла справа і да малых,—што з імі рабіць, дзе падзець, каб не перашкаджалі ў рабоце. Палохаць іх—не баяцца, трэба ласкава абыходзіцца. Вось адна з старэйшых дзяўчатак, Волька, і кажа:

— Слухайце, малыя! Хоць вы і маленькія, але павінны сёе-тое разумець. Нам цяпер трэба многа працаваць, каб вырасла морква, буракі, гарох, бульба і іншая гароднiна, якую і вы будзеце есьці. Вельмі мы вас просім— не перашкаджайце нам і будзьце хоць трошкі спакайнейшымі. Мы вам пагражаць ня будзем больш нічым, вы павінны і так паслухацца.

Многія дзеці засьмяялі Вольку:

— Гэтак бо яны і паслухаюць цябе.

Калі сход скончыўся, малыя зьбіліся ў куточку за дзьвярыма і цішком свой сход распачалі.

— Давайце дурэць ня будзем зусім!—сказала Тацьцянка.

Марылька задумалася.

— Ну, хоць крышку хіба...

— А што-ж тады рабіць? Сумна...

— Мы таксама працаваць будзем, але паціханьку, каб большыя ня бачылі, а тады пакажам,—прашаптала Ганулька.

Малыя падумалі і згадзіліся: гэта-ж вельмі цікава,—працаваць ды яшчэ і цішком! Трэба паспрабаваць. Узяліся малыя за работу — справа нялёгкая. Выбралі сабе месца за казячым хлявом: добрае месца і на сонцы, і ніхто туды не заходзіць. Клопату ў малых нямала.

Самае важнае, каб ніхто не за-



*... Зараз-жа бяруцца і ў сябе тое самае робяць, стараюцца.*

ўважыў. Але большым і так не да іх—цэлы дзень сваёю работаю заняты, пра малых забыліся: рады, што яны пад нагамі ня блытаюцца ды не перашкаджаюць.

Пабягуць малыя на агарод, пацікавяцца, што большыя робяць, ды скарэй назад за казячы хлеў—зараз-жа бяруцца і ў сябе тое самае робяць, пыхкаюць, стараюцца...

Цяжка толькі рыдлёўкі дастаць, каб большыя ня ўбачылі. Але знайшлася адна маленькая рыдлёвачка, яе ніхто з большых браць не хацеў. Схавалі малыя гэтую рыдлёвачку ў хлеў, казе загадалі яе пільнаваць; вось гэтаю рыдлёўкаю і арудуюць. Цяжка малым было, градка зусім крывою вышла, ня раз спрачаліся, нават да бойкі даходзіла

але толькі хто заплача—Таццянка засыкае:

— Пачуюць, прыдуць, ш-ша!

Так і сьцішала. Скончылі градку, хоць і маленькая і крывая, але затое свая.

Пачалі большыя садзіць. Малыя за імі, ходзяць нібы кураняты, выглядаюць, а калі ніхто ня бачыць: цап-царап, схопіць хто-небудзь з іх у жменьку насеньня ды бачком, бачком за казячы хлеў і зараз-жа пасадзіць.

Ямку пальцам праткне, насеньне туды паложыць і зямлёю засыпле, усё па-сапраўднаму, як вялікія робяць.

Пасадзілі. Трэба-ж і паліваць. Ваду насілі ў чайніку. Праўда, бегаць па ваду даводзілася многа разоў, але-ж ногі свае, не адпадуць.



*... Схопіць у жменьку насеньня ды за казячы хлеў і зараз-жа пасадзіць.*

Большыя ўвесь гарод пальлюць, а малыя ўсё над сваёю градкаю валаводзяцца.

Аднаго разу здарылася бяда. Пашла Ганулька па ваду ды і плюхнулася ў копанку — такая нязграбніца! Выцягнулі яе большыя, мокрую, апэцканую... абступілі.

— Чаго ў копанку лезеш, колькі разоў казалі?

Ганулька плача, а потым і сказала:

— Паліваць...

Малыя так і абамлелі, — няўжо скажа?

Але большыя загаманілі:

— Ведаем вашае паліваньне, шкодзіце толькі.

Супакоіліся малыя. Не зразумелі большыя—ну і дурныя-ж!

Скончылі большыя работу на гародзе. Склікалі сход, гаварылі, хто што за весну зрабіў. Малыя таксама тут аціраюцца, але сходам ня цікавяцца, усё больш у куточку аб нечым шэпчуцца.

— Хто яшчэ што мае сказаць?—запыталася Волька, якая была за старшыню. Тут Таццянка руку падняла. Усе дзеці паглядзелі зьдзіўлена.

— Ты што маеш сказаць?— запыталася Волька.

— Мы таксама рабілі градку... — пачала Таццянка.

Дзеці засьмяяліся, загаманілі, не паверылі. У Таццянкі губы задрыжалі, вось-вось заплача.

Волька тады моцна застукала, каб сьцішыліся большыя.

— Ня крычэце, ціха вы!

Таццянка запінаецца, але тут ужо ўсе малыя ўмяшаліся. Чатырма галасамі разам пра ўсё расказалі.

Кінуліся дзеці да градкі малых.

І праўда, хоць і крывая, малюсенькая градка, але ўсё-ж яна ёсьць.

— Ну і малайцы малыя!

Вырасла на градцы малых 3 морквы, рэпа і многа пятрушкі. Калі ўсё вырасла, зрабілі пастанову, каб з гэтай градкі нічога ня есьці, а засушыць і зрабіць вялікі плякат.

Усё наклеілі, папрышывалі і вялікімі літарамі напісалі:




## ГАРОДНІНУ—ПРОЛЕТАРСКАМУ ГОРАДУ



*Колгасьнікі з колгасу „Перамога“ рыхтуюць для адпраўкі ў горад агуркі.*

# СІЛОС

*Верш В. КОМАРА*

Познай восеньню на працу
Вышлі вучні ў колгас,
Памагчы травы нарэзаць
Для сілосу, у запас.

* * *

Зінка серпам жне ля плоту,
Лізка з посьцілкай ідзе,
Юзік косіць, аж пацее,
А Спартак на воз кладзе.

* * *

Назьбіралі травы дзеці
І вязуць яе на двор,
Дзе сячкарня ўжо працуе,
Дзе гудзіць дзіцячы рой.

* * *

Дружна топчуць траву ў яме
Хлопцы, нібы сена воз,
Зінка сольлю пасыпае,
Каб смачнейшым быў сілос.

* * *

А вясной сілос дасталі
Для каровак і каней,
Малачка кароўкі далі
Многа болей, як раней.

Дык давайце гуртам, дзеткі,
Мы колгасам памагаць,
Каб змаглі яны ўвосень
Шмат сілосу закладаць.






*Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ*

Ну і задачу-ж задала сёньня Манька сваёй матцы. Як прышла з дзіцячага саду, дык адразу-ж і заявіла:

— Мама, нам цётка Волька сказала, каб усе ў сябе дома зрабілі дзіцячы куток.

— Дзе-ж я табе яго зраблю?

— Дзе-небудзь. Траха, што ва ўсіх дзяцей ужо ёсьць дзіцячыя куткі,—ледзь ня плачучы сказала Манька.

— У іх, можа, вялікія пакоі?

— Не, не! Вось у Асі зусім маленькі пакойчык, і то ёсьць куток.

Думае маці—дзе-ж месца выбраць? А трэба, канешне трэба!

Раптам Манька радасна закрычала:

— Мама, мама! Я прыдумала дзе. Ты зьнімі са століка люстэрка і павесь яго на сьцяне, як у Асі. Столік вынесь, на ім-жа ўсё роўна нічога няма. Тады адразу будзе многа месца!

— І праўда, Манечка! Люстэрку павесім, а пусты стол мне і ў калідоры спатрэбіцца.

— Ну, давай зробім!—падганяла Манька.

— Ах, і сьпяшаешся-ж ты! Пачакай. Прыдзе Янка з заводу і паможа мне, а то адна ня спраўлюся, люстэрка цяжкае.

Манька не знаходзіць сабе месца. То да вакна падыйдзе, паглядзіць, ці ня ідзе Янка, то да стуку дзьвярэй прыслухоўваецца — ці ня стукае брат...

— Ты-б лепш падрыхтавала пакуль усё, што трэба для кутка,—сказала маці.

Дзяўчынка радасна ўхапілася за работу. Яна скоранька дастала портрэт Ільліча, які ёй даўно ўжо падарыў Янка, потым выняла са скрынкі шнурок каляровых сьцяжкоў, што сама зрабіла ў дзіцячым садзе, дастала свае любімыя малюнкі і другія патрэбныя рэчы.

Неўзабаве прышоў і брат. Манька кінулася да яго і скоранька расказала пра сваю навіну.

— Толькі скарэй, скарэй памажы павесіць люстэрка. Мы гэтак цябе чакалі,—цягнучы за рукаў, прасіла дзяўчынка.

— Ды пачакай-жа ты, нецярпліўка. Дай хоць паабедаць ды памыцца яму,—спыніла яе маці.

Ледзь дачакалася дзяўчынка, пакуль Янка скончыў зьбірацца. Скора люстэрка вісела на сьцяне, стол быў вынесены і Манька ўзялася наладжваць свой куток.



— Ну і малайчына! Добра, добра ўсё зрабіла!—хваліла маці.

— Як толькі ты будзеш за ім даглядаць і прыбіраць?—жартаваў брат.

— Усё буду добра рабіць. Ня бойся за мяне. Усё будзе ў парадку,—весела адказала радасная Манька.









# Хлопчык Пеця

Верш дзяткора УЛ. ПІЛЮГІ

Малюнкі ПАШКЕВІЧА

Ёсьць на сьвеце
Хлопчык Пеця,
Яму толькі
Дзесяць год.
Ды на гэта
Не глядзеце,—
Пеця наш—
Малы герой.
Хоча быць ён піонэрам,
Але вось бяда якая:
Пецю матка Кацярына
Ў атрад ня пускае.
Любіць Пеця піонэраў.
Стройна ідуць яны калёнай,
Песьні звонкія сьпяваюць,
Усе ў гальштуках чырвоных.



* * *

Бацька Пеці на заводзе,
За варштатам № 2.
На работу час прыходзіць,
А яго... усё няма.
Бацьку Пеці
Усё адно—
Што завод,
Што прамфінплян...
Усё аддасьць ён
За віно,
За шклянку
Горкага пітва.

* * *

Сёньня маткі
Дома няма.
Гэтаму Пеця
Вельмі рад.
Сабраўся цішком
І пабег у атрад.
А там павадыр,
Таварыш Будыр,
У атрад запісаў
І ласкава Пецю сказаў:
— На сьвята здасі абяцаньне,
Тады атрымаеш і гальштук.
Сёньня-ж сход,
Важныя пытаньні.
Прыходзь. Убачыш
Усіх піонэраў нашых.



* * *

Чатыры гадзіны.

Скончылі працу.
Рабочыя сталі
Дамоў сабірацца.
І вось у маўклівы завод
Прышоў піонэрскі народ.
Адразу пачуўся
Вясёлы тут гоман.
— Што вам патрэбна?—
Спытаў піонэраў
Старшыня заўкому.
Тут вышаў наперад
Будыр і сказаў:
— Атрад піонэраў
Прышоў памагаць.
На нашым заводзе—
Прарыў...
Бацькі ня ўсе ва ўдарных
Брыгадах.
Вось мы і прышлі
Памагаць вам
Усім атрадам.

* * *

Прагледзелі сьпісы прагуль-
шчыкаў:
Канцавы,
Баравы,
Мядзьведзкі,
Камянецкі,
Сярмяжны...
Пеця спытаў:
— Гэта-ж бацька мой?!.
Старшыня ў адказ
Паматаў галавой.
Напісалі некалькі плякатаў.
На плякатах:
**Ганьбуем тых,**
**Хто працу варштатаў**
**На гарэлку мяняе**
**Ў піўных...**
Падышоў да варштату Пеця,
Напісаў ён на ім адважна:
Таварышы, вось паглядзеце—
**Тут працуе прагульшчык**
**Сярмяжны.**






*Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ*

*Малюнкі ПАШКЕВІЧА*

Сыплюцца з дрэў жоўта-зялёныя, шэрыя, чырванаватыя лісточкі. Восень. На зямлі лісьце не пасьпяваюць прасыхаць ад частых дажджоў, і па вуліцах шмат гразі і лужын. На колгаскім полі нічога ўжо няма: усё прыбралі, толькі невялікая лапінка насеннага лубіну засталася.

— Трэба сабраць лубін на насеньне,— кажа ў школе піонэр Валодзя.— Яго пара ўжо зьбіраць. Заўтра, ударнікі, зьбярэцеся ў школе і пойдзем разам.

На другі дзень 38 маленькіх будаўнікоў соцыялізму з песьнямі, організавана пашлі на поле. Лубін ганарова стаяў, як зялёны лес. Акцябронак Клара зусім схавалася ў лубіне, нават і хустачкі яе ня відаць было. А струкі, струкі, якія расставіў лубін ва ўсе бакі!

— Будзем струкі ірваць!— крычаць дзеці,— лягчэй будзе яго абмалаціць тады.

— Давайце струкі,— адгукаюцца другія.

— Ай, палец укалола!—крычыць Клара,—аж кроў пашла...

— Нічога, Клара,—дадае Таццяна,— я таксама трохі рукі абадрала, але гэта ня вельмі баліць. Хадзі, я навучу цябе, як трэба яго зьбіраць.

— А глядзеце, колькі лубіну за адну гадзіну назьбіралі! — крычыць Андрэй:—во зараз і скончым працу.

— Ну, паглядзім, хто хутчэй свае мяшкі назьбірае,—перагукваюцца паміж сабою дзеці.

Цягнуцца па небе сівенькія хмаркі, падыхае васеньні ветрык, а дзецям цёпла і весела.

Праз дзьве гадзіны 20 мяшкоў струкоў было сабрана. Дружна пачалі вучні зьбірацца ў шэрагі. На поле прыехалі два колгасьніка за лубінам.

— Ай, якія дзеці! Нашым бабам хапіла-б на два дні гэты лубін зьбіраць, а яны — глядзі! Во малайцы дык малайцы!

Радыя дзеці бадзёра пашлі з поля.

— Во, сёньня паабедаем смачна,—кажуць некаторыя.

Вочкі іх гараць, шчочкі зачырванеліся.

Чакала, чакала маці Міхаську абедаць, не дачакалася і пашла да яго на поле. Узяла з сабою кавалак хлеба з маслам. Якраз сустрэла яна дзяцей па дарозе.

— Не, мама,—кажа Міхаська,—ня буду я цяпер есьці хлеб. Усе ідуць так і я пайду так. Дома смачней пад'ем.

Паківала галавой маці, зьдзіўлена паглядзела на свайго Міхаську.

— Вось дык дзеці цяпер,— сказала яна да настаўніка,—пасобку нават і есьці ня хочуць, усё каб разам усім...

— Мы згуртуем, хлопцы, скора ў колектыў сваё сяло, каб жыцьцё было бяз гора красавала і цьвіло,— запяялі дзеці.

Разам з імі ішла маці Міхаські і нешта сьціскала яе горла і нейкія радасныя ганаровыя сьлёзы паказваліся на яе вачох, калі яна глядзела на дзяцей, на свайго Міхаську, які моцна і дружна сьпяваў разам з усімі і які адмовіўся ўзяць у яе гэткі смачны кавалачак хлеба з маслам.

„Вось дык дзеці цяпер“, яшчэ раз падумала яна.





# КІРГІЗІК

*Апавяданьне М. ЗІМІНАЙ*

*Малюнкі МАЎРЫНАЙ*

Юм—маленькі кіргізік.

У яго вочы косыя, шырокі твар. Юм жыве ў шырокім стэпу, у вялікай і круглай юрце. Юм маленькі, а ўжо добра езьдзіць вярхом на кані. Толькі няма ў яго свайго каня.

— Вось пачакай, будзе маленькае жарабя ў кабылы — будзе табе і конь,—кажа бацька Юму.

Чакае Юм жарабяці. Ніяк не дачакаецца.

Прышла вясна. У стэпу сьнег згінуў. Трава зазелянела.

Раз прыходзіць бацька Юма і кажа:

— Ідзі, Юм, цябе чакае падарунак.

Выбег Юм з юрты. Стаіць кабыла. А каля яе маленькае жарабя. Маленькае, рыжанькае. Толькі ножкі беленькія, як у белыя чаравічкі абутыя.

Узрадваўся Юм. Ні есьці, ні піць ня хоча. Толькі і ходзіць каля жарабяці. Гладзіць яго па мысе, гладзіць па сьпінцы.





Вось пастух сабраў чараду коняй. Пагнаў у стэп шырокую, на зялёную траўку. Пагнаў і кабылу з жарабём. Сумуе Юм. Чакае, калі вернецца чарада.

Аднаго разу сьпіць Юм у сваёй юрце, чуе—заіржала кабыла. Выбег. Стаіць кабыла. А каля яе няма жарабяці.

Здагадаўся Юм, што бяда здарылася. Сеў на кабылу верхам. Едзе. Бяжыць кабыла па стэпу. Месяц круглы ярка сьвеціць. А сьпераду рака цячэ зырка. Увайшла кабыла ў ваду. Пыркі раскідае ў розныя бакі.

Сядзіць Юм. Моцна трымаецца за грыву. А вада халодная да кален даходзіць. Не баіцца Юм, толькі мацней за грыву трымаецца. Вось пераехалі раку. Бачыць Юм—яма. Спынілася кабыла.

А там, у яме, маленькае жарабя. Ржэ ціха, ціха.

Пагнаў Юм кабылу далей, туды, дзе агні гарэлі. Паклікаў людзей да сябе.

— Едзем скарэй. Укінулася ў яму маё жарабя.

Выцягнулі з ямы жарабя. А наназе ў яго кроў цячэ. Парваў Юм сваю рубашку. Завязаў жарабяці нагу.

Ліжа кабыла сваё жарабя. А яно моцна, моцна прытулілася да свае маткі.

---

Цяпер бацька Юма ў колгасе. Юм — піонэр. Юм угаварыў піонэраў, і яны ўсім атрадам узялі шэфства над малымі жарабяткамі ў колгасе. Піонэры кожны дзень даглядаюць жарабят. Чысьцяць іх, кормяць, гадуюць.



# Колгасная квактуха

Н. Дзебагоры — Макрыевіч.

П'ЕСКА

**ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:**

**Грышка** — сын батрачкі, вясёлы хлапец.

**Васіль**—самы старэйшы піонэр.

**Манька**—самая маленькая.

**Гаўрыла**—кулак.

**Дзьве бабулькі.**

**Дзеці, сяляне.**

(Да адкрыцьця заслоны на сцэне чуваць балалайка альбо гармонік—піонэры рыхтуюць частушкі. Перад зачыненай заслонай, з аднаго боку заслоны на другі, скора ідзе бедна адзеты Грышка з балалайкаю).

**Грышка.** Уга, колькі народу прышло. Гэты вы ўсё на выстаўку? Піонэры нешта цікавае сёньня пакажуць. Тое самае, што „на нагах, а ня ходзіць, не квактуха, а куранят выводзіць". Што гэта такое? Ня ведаеце? Ну і я не скажу. Чуеце? Гэта яны рыхтуюцца. Пабягу і я туды. Бывайце.

(Гаўрыла высоўваецца з таго боку, адкуль вышаў Грышка, махае яму рукою і шэпча).

**Гаўрыла.** Эй, Грышка, пачакай, ідзі, браток, сюды. (Грышка неахвотна варочаецца). Ты куды ідзеш? (Ківае на сцэну, Грышка з-пад'ілба глядзіць і таксама ківае галавою). Вось гэта мне і трэба. Ты мне адну справу зрабі, браток. Справа пустая, лёгкая, а я табе за работу заплачу добра. (Б'е сябе па кішэні). А пакуль што вось вазьмі, каб работа была весялейшаю. (Вымае прыгаршчы цукерак).

**Грышка** (не бярэ цукерак). Мне часу няма, дзядзька Гаўрыла, скарэй трэба туды ісьці. (Хоча пайсьці).

**Гаўрыла.** Чакай. (Трымае кулак перад носам Грышкі). Калі ты мне гэтае справы ня зробіш, дык я сёньня-ж тваю матку выганю. Мне гэткія батрачкі не патрэбны, у якіх сыны з піонэрамі сябруюць. Чуеш?

**Грышка.** Чую.

**Гаўрыла.** Ну, тота-ж. Пойдзем я табе ўсё раскажу.

(Выходзяць).

(Падымаецца заслона. На сцэне колгасьнікі, піонэры і вучні канчаюць выстаўку па курагадоўлі. На сьценах разьмешчаны плякаты, дыяграмы і лёзунгі. Стаяць клеткі з курамі, пасярэдзіне інкубатар. У баку разьмясьціўся оркестр).

**Васіль** (перад музыкамі). Галоўнае, парадак не забывайце. Пакуль народ будзе зьбірацца, грайце ціха, а калі пойдзем глядзець, як кураняты вылупляюцца, грайце моцна, а потым усе сьпяем. Не забудзеце гэтага.

**Піонэры.** Ды не.

**Манька** (падбягаючы да інкубатара і разглядваючы праз шкло). Вось яны, кураняткі... Будуць жоўценькія, рабенькія, розныя. Глядзеце, што гэта на яйцах? Як патрэскаліся. Глядзеце. (Усе абступаюць інкубатар, заглядваюць, гавораць між сабою).

**Галасы**. І праўда, шчылінкі на двух. А вось яшчэ і на трэцім. Пойдзем скарэй зваць нашых гасьцей, каб самага цікавага не прапусьцілі.

**Васіль** (аглядваецца вакол). Здаецца, усё ў нас у парадку. Ну, пашлі, хлопцы, пашлі.

(Усе выходзяць. З дзьвярэй крадзецца Грышка, прыслухоўваецца, аглядваецца).

Грышка. Усе пашлі. (Палыходзіць да інкубатара, аглядвае, хоча адкрыць, раздумлівае). А што калі не перакладваць? А Гаўрыла? Жыцьця ня дасьць матцы, працай заморыць. (Думае). Шкада маткі. Зраблю гэта для яе. (Адкрывае інкубатар, вымае адтуль усе яйца і кладзе за пазуху. Потым з кішэняў вымае другія яйца і кладзе на месца вынутых. Чуваць здалёк галасы). Ідуць... (Хаваецца).

(Убягаюць музыкі, пачынаюць ціха іграць. Уваходзяць піонэры і дарослыя. Паміж імі дзьве старэнькія бабулькі. Грышка няпрыкметна падыходзіць з боку. У часе наступнай сцэны Грышка стараецца трымацца ў баку, ад яго падыходзяць то адзін, то другі піонэр, загаварваюць з ім, б'юць жартуючы па плячы Грышку. Грышка адчувае сябе нядобра, часта хапаецца за пазуху, палохаецца кожнага руху дзяцей).



**Васіль**. Сёньня, грамадзяне, дваццаць першы дзень, калі мы заклалі сюды яйца. Гэта штука называецца інкубатар. У ім можна адразу сто куранят вывесьці. Праз кожныя тры тыдні маем па сотні куранят. Для вопыту мы заклалі пакуль дзесятак.

(Бабулькі ня вераць, другія дзівяцца. Словы бабулек устаўце самі).

**Васіль**. Тут вы ўбачыце, што куранят можна вывесьці без квактухі, калі ўжыць навуковы спосаб. Мы ўвесь час сачылі, каб унутры інкубатара, дзе ляжаць яйца, было даволі цяпла. Вось тут лямпа, якою і саграваласся там паветра, а вось градусьнік—па ім мы сачылі, каб падтрымліваць роўнамерна цяпло. Скора павінны выйсьці кураняты, некаторыя яйцы патрэскаліся ўжо, відаць шчылінкі. (Усе заглядваюць, шэпчуцца, паціскаюць плячыма, некаторыя ўсьміхаюцца).

**1-я бабулька**. Паглядзім, паглядзім, якія ў вас кураняты без квактухі выведуцца. (Васілю). Кажаш, шчылінкі... А гэтых шчылінак нідзе ня відаць.

**2-я бабулька**. Якія там шчылінкі—няма нічога. Ды і яйца цёмныя, згнілі, відаць. Ды ня дзіва: дваццаць першы дзень гніюць.

(Сьмяюцца).

**1-я бабулька**. Навукай, брат, курыцу не заменіш.

(Уваходзіць Гаўрыла).



**Гаўрыла** (весела). Дзень добры грамадзяне! Прышоў і я паглядзець як параю куранят выводзяць.

**Галасы.** Якія там кураняты, адны тухлыя яйца.

— Бач, якія порсткія,—без квактухі надумалі куранят выводзіць— на будучы год у гэтую пару мо' і выведуцца... (Гаўрыла і іншыя падыходзяць да інкубатара, заглядваюць і паціху гутараць паміж сабою).

**Васіль** (аднаму з піонэраў, ціханька). Сюды пасьля нас ніхто часамі не заходзіў?

**Піонэр.** Не, толькі Грышка цягаўся нечага каля будынку.

**Васіль.** Дзіўна. Толькі што былі шчылінкі, а зараз проста як-бы зьніклі.

**Другі піонэр** (ціха). Мо' хто падмяніў яйца? (Васіль, першы і другі піонэры адыходзяць у бок, не разумеючы ў чым справа).

**Другая бабулька** (голасна). Ды кіньце вы глядзець. Выдумалі нейкі кубатар, ды гнояць яйца. Навука...

**Першы мужчына.** Разумнымі вельмі сталі... Калі гэта было, каб без квактухі кураняты вышлі. Калі бог ня дасьць, сам ня выдумаеш.

**Адна з жанчын.** Э-э, цётка, ня ведаеш нічога, дык і маўчы. Ды я сама ў Менску бачыла, як кураняты без квактухі ў інкубатары выходзілі. (Да мужчыны) Ня бог, а навука ўсё можа...

(Грышка падыходзіць да краю сцэны, моршчыцца, хватаецца за пазуху. Ціха гледачом): „Ой-ой-ой, што мне рабіць. Кураняты выводзяцца... мокрыя... шчыкочуць... Ня вытрымаю“...

**Гаўрыла.** Ды якая тут навука— адна хлусьня. Хадзем лепш да хаты, пакуль дзеці нам сваімі штукамі (паказвае на інкубатар) зусім галоў не замарочылі.

**1-я бабулька.** Цьфу, і прышла-ж я ў гэтакае нячыстае месца (плюецца). (Васіль і іншыя пачынаюць прыслухоўвацца).

**Васіль.** Цішэй. Кураняты недзе пішчаць.

**Галасы.**—Ціха! Пішчаць! Жывыя кураняты пішчаць... Жывыя вось там. (Падыходзяць да Грышкі). Вось тут. Пішчаць... (Грышка бокам паціху адыходзіць на другі бок сцэны. Усе прыслухоўваюцца).—Нічога ня чуваць... Цяпер там зноў пішчаць... (Зноў шукаюць. Грышка ня вытрымлівае і дзіка крычыць. Бабулькі пужаюцца, пачынаюць лаяць Грышку і кідаюцца на яго з палкамі. Дзеці хочуць выратаваць Грышку. Хтосьці хватае яго за пояс, паясок абрываецца і з рубашкі высыпаюцца кураняты і лушпіны ад яйца. Усе зьдзіўлены, ахаюць і адскакваюць ад Грышкі. Ён стаіць пасярэдзіне з прыціснутымі да рубашкі рукамі. Дзеці кідаюцца падымаць куранят. Гаўрыла няпры-

кметна пагражае Грышку кулаком. Грышка, быццам пакрыўджаны няўдачай, кідаецца да Гаўрылы).

**Грышка** (горача). Дзядзька Гаўрыла, я з усіх сіл стараўся табе дагадзіць. Усё зрабіў так, як ты казаў: тухлыя яйца туды паклаў, адтуль усе да аднаго ўзяў, а вось куды іх дзець было — ты мне не сказаў. Я чакаў, чакаў пакуль ты сюды прыдзеш, а куранята ўзялі ды вылезьлі з шалупін. Я не вінаваты. Дзядзька Гаўрыла, сапраўды не вінаваты.

(Гаўрыла хватае Грышку за валасы, але дзеці, якія стаялі за сьпінаю Гаўрылы, становяцца вакол яго. Грышка адыходзіць, бярэ ліст паперы і робіць з яго каўпак).

**Дзеці.** Што, дзядзька Гаўрыла, дрэнная справа? Не ўдалося табе нас абдурыць! Не ўдалося! Не ўдалося! Не ўдалося!

(Гаўрыла ірве каўпак, вырываецца і ўцякае. Дзеці праводзяць яго сьвістам).

**Васіль.** Музыкі, прыпеўкі нашыя давай (сьпяваюць):

**Гэй, суседка, нас паслухай:**
**Непатрэбны больш квактухі.**
**Піонэры ўсім атрадам**
**Змайстравалі інкубатар.**
**За тры тыдні інкубатар**
**Дасьць вам сотні куранятаў.**
**Толькі, цётка, не зявай,**
**Даглядаць іх пасьпявай.**
**Піонэры, акцябраты—**
**У паход за інкубатар!**

Увага: Куранят можна нарабіць з матэрыі і пафарбаваць іх жоўтаю і цёмнаю фарбаю. Яйкі ўзяць курыныя, але раней трэба высcаць усё з сярэдзіны праз маленькія дзірачкі.



*Піонэры дапамагаюць колгасьнікам ірваць каноплі.*

# ГАЗЫ



## МЕСЦА СЬМЕРЦІ

Штат Мэрылэнд Паўночнай Амэрыкі. Дзіўная мясцовасьць. Чыстае паветра, сенажаці ў кветках, гаі, халодныя хвалі рэчкі Баша. Ціхі, бязьлюдны закутак. У 1917 годзе сюды прыехалі нейкія людзі, пагаманілі аб нечым ды паехалі. На другі дзень зьявіліся сюды тысячы рабочых, і праз 9 месяцаў мясцовасьці было не пазнаць. Як з зямлі вырасла 550 будынкаў з 10000 жыхароў... Пабудавана была і бальніца з дзіўнымі хворымі.

Гэтыя хворыя ўсе былі атручаны... На іх праводзілі спробы новых атрутных газаў у Эджэвудзе—месцы сьмерці.

Эджэвуд—найвялікшая ў сьвеце фабрыка атрутных газаў.

Тут ня толькі рыхтуюць атруту, а і робяць спробы яе і на жывёлах, і на людзях. Рабіць досьледы на жывёлах замала, бо атрута, што забівае, напрыклад, трусікаў, можа ня шкодзіць чалавеку.

Досьледы робяцца над салдатамі першага газавага палка, які раскватараваны ў Эджэвудзе. Самыя небясьпечныя для жыцьця—над злачынцамі, якія асуджаны на сьмерць. І гэта робіцца ў краіне, якая лічыць сябе культурнаю і вольнаю.

Пройдземся па цэхах гэтай фабрыкі. Тут здабываюць хлёр, той самы хлёр, ад якога ў час імпэрыялістычнай вайны загінула пад Іпрам 6000 чалавек за адну гадзіну. Хлёр найменш шкодны атрутны газ, які вырабляецца ў Эджэвудзе.

Сотні сьмяротных газаў было выкарыстана ў час імпэрыялістычнай вайны. І ўдзень і ўночы працавалі на заводах і ў хімічных установах. Рыхтавалі ўсё новыя і новыя забойствы.

Першымі, хто пачаў ужываць хлёр у час вайны, былі немцы. Але скора даведаліся, што пры



*Пяць-дзесяць такіх самалётаў-бомбавозаў могуць разбурыць самы вялікі горад.*

дапамозе процівагазу можна пазбавіцца ад хлёру. Тады немцы выдумалі новы, яшчэ горшы газ—фосген. Калі хлёру патрэбна было на кожны кілёмэтр фронту 1200 пудоў, то фосгену толькі 150. Але і тут процівагаз аказаўся мацнейшым за газ.



*За некалькі хвілін газ задушыў 6.000 чалавек.*

Хлёр ды фосген не заўсёды забівалі людзей. Здаралася, што атручаныя пасьля вялікіх пакутаў ачуньвалі.

Француская буржуазія хацела быць „лепшай“ за немцаў. „Наш газ, казаў генэрал Фрайс, будзе забіваць адразу людзей. Яны ад гэтага пазбавяцца і пакуты і лекаў у шпіталі“...

І вось зрабілі найстрашнейшую з атрут—цыяністы квас.

Ды на шчасьце выявілася, што ён занадта лёгкі. Замест, каб слацца па зямлі, газ ляцеў угару. Думалі лепш будзе, калі зьмяшаць яго з больш цяжкімі газамі. Але, калі атруту зьмяшалі, яна стала няшкоднаю. Францускія генэралы пачалі ўжываць тыя самыя газы, што і немцы.

Дзеля газавай атакі ва ўсялякую пагоду ангельскія генэралы выдумалі газамёт-гармату, што кідала балёны з атрутаю ў варожыя акопы. Газамёты ўкопваліся ў зямлю і толькі дулы былі відаць з-пад зямлі. Каля гармат людзей ня відаць. Стралялі пры дапамозе электрычнасьці з месца, якое знаходзілася далёка ад гармат. Адразу можна агарнуць ворага хмараю атрутнага газу. Спрыяючы вецер тут зусім не патрэбен.

Але газамёты кідаюць балёны з атрутай недалёка. Таму і пачалі для атрутных газавых атак ужываць звычайныя артылерыйскія гарматы. Бомбы з атрутай можна было пасылаць на вялікія адлегласьці і пры любым надвор'і.

## ПРАЦІВАГАЗ СУПРОЦЬ УСІХ ГАЗАЎ

Першыя працівагазы абаранялі толькі ад хлёру ды фосгену. А, вядома, што чым далей, людзі выдумлівалі ўсё новыя і новыя газы. Трэба было прыдумаць і зрабіць такі процівагаз, які-б абараняў ад гэтых новых газаў.

Даведаліся, што звычайны дзеравяны вугаль высмоктвае

газ, як губка ваду. Засталося прыстасаваць яго да шлему процівагазу, але гэта ўжо ня цяжка зрабіць. Вугаль насыпалі ў бляшаную каробку з дзьвюма дзіркамі зьверху ды зьнізу, каб ён не высыпаўся. Яго зьмясьцілі паміж двух сітачак. Верхнюю дзірку злучылі з шлемам. Чалавек, адзеўшы шлем на галаву, мог дыхаць толькі праз бляшанку з вуглём, які затрымліваў усе шкодныя газы. Дыхаць у процівагазе было трудна.

У процівагазе цяжка было хадзіць, і таму яго надзявалі, калі ў гэтым была пільная патрэба. Буржуазія для таго, каб прымусіць салдат варожых армій скідаць процівагазаў, пачала ўжываць сьлёзатачывыя газы. Маленькая колькасьць газу прымушала цэлыя дывізіі плакаць. Тады спрасьцілі маску і процівагаз можна было насіць ня скідаючы цэлыя гадзіны. Потым, каб прымусіць усё-ж такі скінуць процівагаз, пусьцілі „чыхальны“ атрутны парашок. Ён праходзіў праз вугаль, людзі яго ўдыхалі і ад гэтага страшэнна чыхалі. Гэта прымушала салдат скідаць маскі, пасьля чаго іх чакала сьмерць.

Але і тут процівагаз перамог. У бляшанку пачалі ўкладваць поўсьць або паперу. Яны прапускалі паветра, але затрымлівалі чыхальны парашок.

Але ўсё-ж такі процівагаз не пазбаўляе ад яшчэ аднэй атруты—іпрыту ці гарчычнага газу. Гэта найстрашнейшая атрута з усіх тых, якія ўжываліся на вайне. Гэта нават і ня газ, а вадкасьць. Іпрыт пахне гарчыцай або часнаком.

Гора таму, хто пакаштуе іпрыту. Пара ды пырскі іпрыту, трапіўшы на скуру, вочы, рукі і інш. часьціны цела, апякае іх. Нічога не забараняе цела ад едкага пякучага газу. Ад яго паміраюць мала, але страшэнныя мукі цягнуцца доўгі час—3—4 месяцы. Каб перамагчы і гэты газ, выдумалі спэцыяльныя халаты, боты. Нават коняй ды сабак адзелі ў такія ўбраньні. Ня лёгка насіць такое адзеньне, але што рабіць, калі ў гэтым дзін паратунак ад страшнага газу іпрыту.



*Газамёты.*

## БУДУЧАЯ ВАЙНА

— Хай ведае сьвет, што мы будзем ужываць атрутныя газы,—так піша ў сваёй кніжцы генэрал Фрайс, начальнік хэмічнага войска Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.



*Атрутны вогненны дождж.*

Ды ня толькі ў Амэрыцы, ва ўсім буржуазным сьвеце рыхтуюцца да будучай хімічнай вайны. Растуць, як грыбы, заводы, дзе вырабляюць гарматы, бомбы і розныя атрутныя газы.

Мы павінны быць падрыхтаванымі да хімічнага нападу. Буржуазія ўсіх краін рыхтуе вайну пераважна супроць Савецкага Саюзу, супроць рабочых і сялян. Наш урад прапанаваў забараніць войны, распусьціць усе арміі. Буржуазія адмовілася гэта зрабіць. Тады мы запрапанавалі забараніць ужываць газы, але буржуазія і гэтага не зрабіла.

Вайна закранае ня толькі фронт, але і тыл. Кожны павінен ведаць, што такое процівагаз. Калі мы хочам падрыхтавацца да будучай хімічнай вайны, мы таксама павінны паклапаціцца аб тым, каб у нас было найбольш людзей, якія ведаюць хімію. Чаму нямецкая буржуазія першаю дадумалася да газавай вайны? Бо ў Нямеччыне было хімікаў больш, як ва ўсіх іншых краінах, была вялікая хімічная прамысловасьць.

Бо там было шмат людзей, якія ведалі хімію. Чым больш будзе ў нас хімікаў і хімічных заводаў, тым больш упэўнена мы адкажам генэралу Фрайсу:

— Хай буржуазія ўсяго сьвету ведае, што мы не баімся газаў.

Толькі перамога рабочых і сялян ва ўсім сьвеце дасьць магчымасьць канчаткова пазбавіцца ад усіх спосабаў зьнішчаць людзей,—і ад газу, і ад самой вайны.

*Паводле кніжкі М. ІЛЬЛІНА „ЖОЎТЫ КРЫЖ“*



*Ад газу абараняе толькі процівагаз.*

# Зьбяру падпіскі на 50 экзэмпляраў

Я дзяткор—дэлегат 1-га Ўсебеларускага зьлёту дзяткораў,—калі прыехаў, растлумачыў у сваёй школе пра часопісь „Іскры Ільіча“. Да гэтага часу ў нашай школе часопісь ня выпісвалася. Цяпер вучні падпісаліся на 30 экзэмпляраў. У рабоце мне дапамагала адозва Наркамасьветы, ЦБ ДКО і рэдакцыі.

Я абяцаю да 2-га Ўсебеларускага зьлёту піонэраў сабраць падпіскі на 50 экзэмпляраў.

Дзяткор В. БУРНОСАЎ.

## ЗАГАДКА

Ля варот прыбіты домік,
Хто жыве там—невядома.
Дзьверцы вузкія на крышы,
Не пралезьці нат мышы.
Хто пралезе ў гэты дом—
Гадзін тры пабудзе ў ём,
Ну, а потым, шпарчэй птушкі,
Цягнікоm імчыцца шумным,
Сам ня ведае куды.
Цераз вёскі, гарады,
Цераз стэпы, цераз горы,
Цераз рэкі і вазёры...
А куды прыедзе ён—
Знае толькі паштальён.



*Малоцяць сабраны ўраджай. Акцябраты, вы павінны дапамагчы піонэрам наладзіць чырвоныя абозы збожжа.*




*МАЛЮНКІ НАШЫХ ДЗЯТКОРАЎ.*

## ПАМОЧНІК

*(Жарт)*

— Што ты робіш?
— Нічога я не раблю.
— А ён што робіць?
— Ён мне дапамагае.

## ЗАГАДКА

Слова складаецца з 5 літар. Яно абазначае тое, што робяць піонэры ў лягерах. Як гэта слова ні чытай: зьлева направа і справа налева—усё будзе адно і тое-ж. Угадайце, што гэта за слова.



*Па белых палосачках дабярэцеся да цэнтру і назад.*

Выдавецтва „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ, А. ЯКІМОВІЧ

ЦАНА 18 кап.

1355



Сама зрабіла аўтабус.



Школа павінна быць політэхнічнаю. На зд.: вучні працуюць у майстэрні на заводзе.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1507. 3050 экз. Галоўлітбел № 1932.